# ПАГОНЯ

ЗАСНАВАНА У 1920 Г.

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

Грамадзка-палітычная газета

№ 18 (165) • 3 — 9 траўня 1996 г. • Кошт свабодны


**25 красавіка Беларускі Народны Фронт і шэраг дэмакратычных партыяў, якія дзейнічаюць у Горадні, правялі мітынг жалобы, прысьвечаны 10-ым угодкам Чарнобыльскай катастрофы. "Вертыкальныя" асобы, якія зьяўляюцца адказнымі за выкананьне чарнобыльскай праграмы, нягледзячы на запрашэньне, удзелу ў Акцыі не бралі. Затое "журналисты в штатском" часу не пашкадавалі. Увесь мітынг быў імі зьняты на відэастужку.**




Аб падзеях у Менску, зьвязаных з правядзеньнем "Чарнобыльскага шляху-96", чытайце на старонцы 2.

## ТРЫМАЦЬ! НЕ ПУШЧАЦЬ!

**Група гарадзенцаў, якая зьбіралася прыняць удзел у "Чарнобыльскім шляху-96", так і не даехала 26 красавіка да Менску.**

Ужо на выезьдзе з Горадні іх старанна "прашманалі" даішнікі: праверылі ўвесь аўтобус, багажнік, зазірнулі нават у сумку вадзіцеляў з інструмантам, допытваліся пра мэту паездкі.

Аналагічныя працэдуры паўтарыліся каля Ліды і ў раёне Іўя. Вынікамі амаль паўтарагадзіннай затрымкі на апошніх пастах сталі 10 тысяч рублёў штрафу за тое, што аўтобус не прайшоў тэхагляд і дазвол ехаць далей. Аднак каля вёскі Байдакі пад Менскам аўтобус быў затрыманы начальнікам ДАІ Менскай вобласьці палкоўнікам В.М.Лысенкам, які сустракаў патэнцыяльных удзельнікаў мітынгу аж на чатырох міліцэйскіх машынах.

- Нам патэлефанаваў начальнік Гарадзенскай абласной ДАІ сп.Лясоцкі і паведаміў, што у бок Менску рухаецца няспраўны аўтобус. Вашы жыцьці падвяргаюцца небясьпецы. Прашу зьняць нумары і вяртацца назад.

Пасьля гэтага адбыўся дыялог міліцыянера з сябрам Гарадзенскай Рады Народнага Фронту Рыгорам Фарманянам:

- Навошта табе, армяніну, улазіць у беларускія справы. Ты хоць чытаў нашую літаратуру? Ведаеш, напрыклад, верш Куляшова "Камсамольцы"?

- "Камсамольцаў" ня ведаю. А вось паэму "Лука Мудзішчаў - прэзідэнт" вывучыў напамяць!

Спадар Фарманян на "Чарнобыльскі шлях" патрапіў. Аднак, і гэта паказалі тэлекампаніі ўсяго сьвету, атрымаў ад раз'юшанага сьпецназаўца дубінкай па галаве.

**Мікола ЧЭРНУШЭВІЧ.**

## ЛЁСЫ КАТАЛІЦКАГА КАСЬЦЁЛУ

**Заўтра ў гарадзенскім Палацы культуры тэкстыльшчыкаў пачнецца каталіцкі навукова-душпастарскі сімпозіум.**

На ім прагучаць рэфераты аб лёсах рыма-каталіцкага касьцёлу на Магілёўшчыне (кс.Раман Факсіньскі, Бабруйск), аб дзейнасьці касьцёлу не Беларусі ў 1906-1945 г.г. (кс. прафесар Тадэвуш Крахель, Беласток) і ў пасьляваенны час (кс.прафесар Раман Дзванкоўскі, Люблін). Дырэктар Беларускага Дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі Людміла Карнілава распавядзе пра цудатворныя абразы Мары на Беларусі. На сімпозіуме прагучаць таксама паведамленьні аб сітуацыі каталіцкага касьцёлу ў Расеі, Казахстане, Малдове, Латвіі, Славакіі, на Украіне і ў Летуве.

Скончыцца сімпозіум урачыстай Сьвятой імшой у катэдральнай Базыліцы, якая адбудзецца а 12-й гадзіне ў нядзелю.

**Вітаўт РУДНІК.**

## ДЬЗВЕ СОТНІ ПЕНЬСІЯНЕРАЎ ВЫЙШЛІ НА ПЕРШАМАЙСКІ МІТЫНГ, А ПРАЦОЎНЫЯ САЛІДАРНУЦЦА НЕ ПАЖАДАЛІ

**Гісторыкі сьцьвярджаюць, што першае сьвяткаваньне міжнароднага дня салідарнасьці працоўных адбылося на Беларусі менавіта ў Горадні вясной 1894 году. Першамайскія маніфестацыі і забурэньні многія гады зьяўляліся самымі масавымі. Але "няма таго, што раньш было".**

Сёлетні мітынг у Горадні ладзілі на плошчы Леніна камуністычная арганізацыя і афіцыйныя прафсаюзы. Пад традыцыйнымі бальшавіцкімі лозунгамі і некалькімі эсэсэрабэсэсэраўскімі сьцягамі каля дьзвюх соцень пеньсіянераў-энкавэдзістаў акуратным карэ выстраіліся насупраць помніка правадыру сусьветнага пралетарыяту. Наўкол валэндалася яшчэ сотня цікаўных. Атмасьферу нафталінна-занудных прамоваў удалося парушыць хіба нейкай прадстаўніцы прафсаюзу работнікаў культуры. Гэтая жанчына экзальтавана пракрычала, што "работники культуры, трудясь с утра до ночи, полуволочат голодное существование". Неўзабаве усе разышліся.

Прыблізна праз гадзіну на Савецкай плошчы ля прыпынку транспарту дзесятак маладых мужчынаў правёў акцыю пікетаваньня. Вялікі транспарант "Не - крывавай дыктатуры!" быў бачны метраў за пяцьсот. Пікетчыкі патрабавалі свабоды Беларусі і Чачні, а таксама сьцьвярджалі, што "Беларускае тэлебачаньне - халуйскае!" Гэта ўжо другі выступ супраць незаконных арыштаў у Менску. Трэба аддаць належнае гарадзенскім міліцыянтам - акцыям пратэсту яны не заміналі.

**Хельмут КАМЕНСКІ.**

## БЕЗ ПРЭЗЭНТАЎ ЗАСТАЛІСЯ ВЕТЭРАНЫ

**На адрас Ленінскага райсабесу Горадні па лініі міжнароднай дабрачыннай каталіцкай арганізацыі "Карытас" прыйшла гуманітарная дапамога з Канады - пяць ёмістых пакункаў агульнай вагой звыш паўтары тоны.**

На жаль, пераважная большасьць дапамогі, а гэта дарослая і дзіцячая вопратка непрыгодная да карыстаньня. Порткі, камізэлькі, сьвэтры на столькі зношаны і забруджаны, што ад іх адмовіцца нават самы бедны гарадзенскі пеньсіянер.

Супрацоўнікі ж райсабесу ў роспачы, бо з гэтых "дароў" заморскія яны зьбіраліся зрабіць сякія-такія прэзенты ветэранам на ўрачыстым сьвяткаваньні першага і дзевятага траўня.

**Г.НЕСЬЦЯРЭВІЧ.**

## КАМУФЛЯЖ І ЧАРНОБЫЛЬСКІ ВАЯЖ

**Апошнім часам прэзідэнт Беларусі ўпадабаў вайсковую камуфляжную форму. Пры аб'ездзе чарнобыльскай зоны Аляксандр Лукашэнка не здымаў улюбёны строй.**

Цяжка ўявіць, каб Ельцын убраўся ў маскхалат. Лідар Польшчы Квасьнеўскі, да прыкладу, апранаецца ў знакамітых эўрапейскіх куцюр'е. Але, ёсьць свае заканадаўцы-"стылісты" і ў галіне камуфляжнай моды - неўміручы Фідэль, Садам Хусэйн.

Схільнасьць цывільных да ваенізаванага адзеньня тлумачыца тым, што такія людзі ня здольныя на стваральную працу, паўсюль ім мроіцца ворагі і небясьпека.

**Марцін КАЛАМУТНЫ.**

## ВЕНДЭТА ПА-ГРАНДЗІЦКУ

**Няшчасьці сям'і Васюхневічаў пачаліся больш за дзесяць гадоў таму. Прычына - прыбудова да жылога дома, што знаходзіцца ў вёсцы Граньдзічы Гарадзенскага раёну. Канфлікт з-за прыбудовы прыводзіў да сямейных сварак, мелкіх пакасьціў і нават да боек і лавы падсудных.**

Уначы 7 студзеня гэтага году доўгая сварка выліласся ў надзвычай жорсткую і бязьлітасную бойку. Брат амаль не забіў брата.

Як устанавіла сьледства, Балеслаў Васюхневіч уварваўся ў хату свайго брата Эдварда для высьвятленьня адносінаў. Эдвард перашкаджаў. У выніку Балеслаў прычыненьня цяжкія пашкоджаньні. Яго жыцьцё выратавалі дактары. Па гэтаму эпізоду да крымінальнай адказнасьці прыцягнуты таксама і жонка, і сын Эдварда.

Адначасова вядзецца іншая крымінальная справа па факту зьбіцьця за некалькі месяцаў да падзей 7 студзеня самога Эдварда. Такім чынам, пад сьледствам знаходзіцца значная частка сям'і Васюхневічаў. У канфлікт уцягнутыя састарэлая маці і чацьвёра братоў з іх сем'ямі.

Не пазайздросьціш праза-ахоўным органам. Яны павінны высьвятліць ісьціну ва ўмовах супрацьлеглых паказаньняў варагуючых бакоў. Суд Гарадзенскага раёну ўжо вяртаў для дадатковага расьсьледаваньня і аб'яднаньня абедзьве крымінальныя справы.

Немагчыма не зьвярнуць увагу на абсурднасьць канфлікту. Ніхто ня спыніць няшчасьці сям'і Васюхневічаў, акрамя іх саміх.

А пакуль Эдвард чакае суду ў сьледчым ізалятары.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

## ЦІ ХОПІЦЬ ЛІНЬДЗЕ "АГНЮ"?

5 траўня ў горад з канцэртам павінна прыехаць сьпявачка Лінда -"девушка с серьгой в носу и негром на заднем плане". У палацы спорткомплексу "Нёман" (на абвестках стадыён пазначаны чамусьці як "Красное знамя") ужо растопленны лёд і спушчана вада. Але ці адбудзецца шоў, яшчэ невядома. Колькі іх, дэклараваных канцэртаў, засталіся толькі на афішах. А раптам Ліньдзе падасца "мало-мало-мало огня"? Наведвалася ж тыдзень таму ў Менск славутая "Машына часу", ды так і не зайграла.

**Л.МАЙНІЧ.**

## У НУМАРЫ:




● ТБК, Астанкина, РТР, С.-Пецярбург, НТБ, Польшча-1, Польшча-2.



### ● КРЫМІНАЛ

У апошні час усё часцей у міліцыю паступаюць заявы ад пацярпелых: "Невядомыя, пад пагрозай сілы, згвалтавалі..."



### ● У ТРЭЦІМ ТУРЫ

чэмпіянату краіны па футболе гарадзенскі "Нёман" сустракаўся ў гасьцях з віцебскім "Лакаматывам-96" і здабыў першае ачко (2:2).




### ● ВЫ ПРАЦУ ШУКАЕЦЕ?

Рэдакцыя "ПАГОНІ" шчыра хоча Вам у гэтым дапамагчы. Зьвярніце ўвагу, калі ласка, на шостую старонку газеты.





ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# ПРЭЗІДЭНТ СУПРАЦЬ НАРОДУ

**БОЛЬШ ЗА 60 ТЫСЯЧАЎ ЧАЛАВЕК ПРЫНЯЛО ЎДЗЕЛ У "ЧАРНОБЫЛЬСКІМ ШЛЯХУ-96" У МЕНСКУ. УЛАДА АДРЭАГАВАЛА ЯК НІКОЛІ ЖОРСТКА: ДЗЕСЯТКІ ЗЬБІТЫХ, СОТНІ АРЫШТАВАНЫХ...**

### ЛЕПШЫ ЭКСПРОМТ - ЗАГАДЗЯ ПАДРЫХТАВАНЫ ЭКСПРОМТ

Істэрыя ўлад дасягнула максімуму напярэдадні 26 красавіка. Афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі зранку да ночы "разьвенчвалі", "выкрывалі", "кляймілі" арганізатараў "Чарнобыльскага шляху-96", "заклікалі" людзей адзначыць Дзень жалобы разам з прэзідэнтам на плошчы Бангалор. Менскі гарвыканкам забараніў правядзеньне апазіцыйнай акцыі. Мэта была адна - не дапусьціць паўтору 25 сакавіка і 2 красавіка.

На крайні выпадак сьпецслужбы рыхтаваліся правесьці шэраг правакацыяў пад час чарнобыльскага шэсьця. "Пад ружжо" былі пастаўленыя каля пятнаццаці тысячаў "работнікаў правапарадку". З Масквы выпісалі 50 афіцэраў-інструктараў, якія маюць вопыт "абыходжаньня" з дэманстрантамі. А чаго варты загаловак у "Народнай газеце", якая за суткі да "Чарнобыльскага шляху" задавала пытаньне: "Шествие и митинг оппозиция намерена провести. Кто ответит за последствия?" Як бачым, Лукашэнкам і яго памагатымі загадзя ўжо быў напісаны сцэнар, згодна якому "затопчут кого-либо или разобьют в кровь, как уже случалось, лицо молодому парню в милицейской форме". ("Народная газета" ад 26 красавіка. - **Рэд.**).

### РЫЦАРЫ "ПЕРА И ТОПОРА" ПРАЛІЧЫЛІСЯ

Пляцоўка перад Акадэміяй Навук пачала запаўняцца больш чым за гадзіну да абвешчанага пачатку. Старыя і малыя, рабочыя і студэнты... Людское мора расло на вачах. Сотні вядомых на ўсю Беларусь людзей: знакамітыя палітыкі, дэпутаты Вярхоўнага Савету, дзеячы навукі і культуры... Стала вядома, што ўлады ў апошнія хвіліны дазволілі правядзеньне мітынгу каля Палацу спорту... І тады, калі пад наглядам міліцыі калона, у галаве якой быў Абраз Маці Божай, выйшла на праспект, і, заняўшы дзьве цэнтральныя паласы, рушыла наперад, нічога, здавалася, ужо не азмрочыць гэты Дзень Памяці і Жалобы.

Аднак на выхадзе з плошчы Якуба Коласа шэсьце затрымалася. Тыя, хто ішоў ззаду, ня ведаючы ў чым справа (метраў за дзьвесьце ад галавы калоны не было відаць што робіцца сьпераду), рухаліся наперад. А наперадзе чакала заслона з міліцэйскіх аўтамабіляў і некалькі ланцугоў сьпецназаўцаў са шчытамі і дубінкамі, якія перагарадзілі праспект. Супрацьстаяньне працягвалася больш дзесяці хвілін. Нарэшце галава калоны, нягледзячы на адчайныя спробы дружыньнікаў Народнага Фронту, сутыкаецца са сьпецназаўцамі...

Раздаюцца адчайныя крыкі справа. Гэта пайшлі ў ход дубінкі. Людская хваля качнулася назад, але бегчы не было куды. Тыя, хто ішоў у сярэдзіне калоны, ня ведаючы што робіцца, паранейшаму імкнуцца наперад... Тое ж самае адбываецца зьлева. Двухметроварослыя адкормленыя "молодые парни" з абсалютна нематываванай жорсткасьцю зьбіваюць усіх, хто трапляе на шляху. Крыкі, стогны, енкі, кроў... І адбылося тое, чаго не было на папярэдніх мітынгах і шэсьцях: зьбіваемыя людзі рушылі наперад. Пачалася сапраўдная бойка, бо трэба было ратавацца ад садыстаў у форме.




Самае вялікае ўражаньне таго моманту - гэта нават не перакуленыя машыны, якія ўмомант былі зьмецены з дарогі. Запомнілася, як маёр у міліцэйскай форме прыціснуў да слупа сьпецназаўца, які толькі што зламаў дубінкай руку пажылой кабеце, і ўсё пытаўся ў яго: "Хто цябе заставіў біць людзей?" Магу засьведчыць дзе заўгодна: міліцыянеры на плошчы Якуба Коласа людзей ня білі. Лютавалі гарылы ў шлемах, са шчытамі і дубінкамі. Яны ж зрабілі спробу расьсекчы калону пасьля таго, як людское мора прыціснула іх да будынкаў і рушыла наперад. Трэба было бачыць вочы гэтых падонкаў пасьля таго, як спроба пазьдзекавацца з людзей зноў скончылася са стратамі для іх...

Магчыма, што менавіта такая рэакцыя людзей на нематываванае насільле прымусіла ўлады зьняць наступныя два заслоны, якія стаялі на "Чарнобыльскім шляху". Але, калі на другім, у раёне плошчы Перамогі, нішто не нагадвала пра сотні ўзброеных аўтаматамі сьпецназаўцаў, якіх бачылі ў тым раёне прыблізна ў 16 гадзін, то на першым, там, дзе праспект перасякаюць трамвайныя лініі, былі "забытыя" грузавікі, якімі загадзя перагарадзілі праспект. Толькі дысцыплінаванасьць людзей і дакладныя дзеяньні дружыньнікаў уратавалі "баявую" тэхніку ад лёсу міліцэйскіх легкавушак.

На перакрыжаваньні праспекту і вул.Я.Купалы дарога была перагароджана аўтобусамі і некалькімі тысячамі сьпецназаўцаў у поўнай экіпіроўцы. Выстраіўшыся ў некалькі ланцугоў, узяўшыся за рукі, дружына Народнага Фронту стрымала націск найбольш гарачых галоваў, якія прагнулі адпомсьціць "сілам правапарадку" за бандыцкае пабоішча на плошчы Якуба Коласа. Яшчэ раз давялося ўступіць у дзеяньне дружыньнікам у раёне праспекту Машэрава, дзе яны абаранялі ўзмоцнены кардон сьпецназаўцаў ад граду камянёў, якімі людзі частавалі сваіх "абаронцаў".

Колькасьць удзельнікаў мітынгу каля Палацу спорту была настолькі вялікай, што ўлады, у адрозьненьне ад 2 красавіка, нават не рызыкнулі дэманстраваць сілу. Тады, на вачах у людзей, бясконца бегалі шэрагі міліцыянтаў, АМАПу, сьпецназу... Побач стаялі сотні аўтобусаў з сядзеўшымі напагатове ўзброенымі салдатамі. 26 красавіка тэрыторыя (уключаючы праезжую частку) паміж Палацам і кінатэатрам "Масква" была поўнасьцю занятая ўдзельнікамі мітынгу, якія стаялі вельмі шчыльна. Адна з прычын гэтага: людзі хацелі пачуць, што гавораць прамоўцы. На вялікі жаль большасьць нічога ня чула, бо, як і ў папярэдні раз, улады Менску, дазволіўшы мітынг, і не падумалі прадаставіць гукаўзмацняльную апаратуру.

Улады зрабілі ўсё магчымае, каб жалобны мітынг перарос чарнобыльскую тэматыку. Выступаючыя гаварылі ня толькі пра Чарнобыль фізічны, але і пра Чарнобыль духоўны, сімвалам якога ў апошнія паўтары гады стаў Прэзідэнт Лукашэнка. "Дзякуючы" яму, Беларусь ідзе ў бездань, метастазы насільля, жорсткасьці і беззаконьня ўсё больш і больш пранікаюць ў грамадзтва. Нішчыцца мараль і спрадвечныя каштоўнасьці беларускага народу. І ўсё гэта адбываецца на фоне руйнаваньня гэтым чалавекам і ягонай камандай эканомікі, пагаршэньня жыцьця людзей, здачы суверэнітэту.

У прынятай адзінагалосна рэзалюцыі ўдзельнікі мітынгу адзначылі, што А.Лукашэнка, пасьля падзей апошняга месяца, ня мае маральнага права быць Прэзідэнтам, а перадумовай выйсьця з крызісу, у тым ліку і чарнобыльскага, ёсьць ягоная адстаўка.

### НАВОШТА ГЭТАЕ ДЗІКУНСТВА ПАТРЭБНА ЛУКАШЭНКУ?

Некалькі дзесяткаў зьбітых... Больш дзьвюх соцен арыштаваных. Паклёпніцкія фільмы, зробленыя шляхам мантажу, вырваныя з кантэксту цытаты лідара Беларускага Народнага Фронту... навошта гэта Лукашэнку трэба?

Адказ просты. Патрэбен вобраз ворага. І ён актыўна ствараецца лакеямі ад журналістыкі, якія атрымліваюць у месяц па 8-12 мільёнаў рублёў за сваю хлусьню.

Патрэбная была кроў - і яна зьявілася. Патрэбныя былі перакуленыя машыны - вось яны. Усё гэта патрэбна было дзеля таго, каб паказаць тым, хто ўсё яшчэ спадзяецца на "усенароднаабранага", што вораг, які перашкаджае Лукашэнку запусьціць заводы, ашчасьлівіць людзей, наладзіць "перарваныя сувязі", - гэта моцны і злы вораг. У гэтым выпадку сваю неадукаванасьць, свой непрафесіяналізм, свае няўменьне і няведаньне можна схаваць. Але схаваць часова. Бо, як не хавай праўду, а з кожным днём усё больш і больш людзей яе бачыць, бачыць, што "кароль голы".

Раней ці пазьней хваля народнага гневу змые Лукашэнку. Так, як гэта было з Беніта Мусаліні, Нікалае Чаўшэску ды многімі іншымі, якія прымервалі да сябе камуфляжную форму дыктатара.

**Мікола ТУРАВЕЦ.**















Фотарэпартаж Міколы ШЭРШЭНЯ

